**Расціслаў Бензярук**

# Вавёрчына дзякуй

*Апавяданні і казкі*

1975
Мінск
«Мастацкая літаратура»

## Самая чыстая расінка

Ганька з Васільком гулялі на лузе. Сонца толькі выглянула з-за лесу. Сцюдзёная раса, быццам крапіва, апякала босыя ногі.

Кожная травінка, кожная кветачка свяціліся ў сонечных праменнях цудоўным агеньчыкам.

— Як прыгожа! — ажно спыніўся Васілёк.

Ён нахіліўся і пачаў нешта разглядваць.

— Глядзі, Ганька,— паклікаў ён дзяўчынку,— самая прыгожая расінка.

Ганька падбегла і нечакана кранула тую травінку, над якой схіліўся хлопчык. Расінка скацілася ўніз.

— Што ты зрабіла! Што ты зрабіла! — ледзь не заплакаў Васілёк.

Ганька паспрабавала суцешыць хлопчыка:

— Я ж не хацела... А ты выберы сабе другую расінку. Гэткую ж!

— Няма другой такой,— усхліпваў Васілёк.— Гэта самая... самая чыстая!..

## Ліпавы цвет

Міколка ляжаў у цяньку ў садзе і чытаў кнігу. Маці паклікала яго раз, другі. Хлопчык нібы і не чуў. Тады яна гукнула мацней:

— Коля, дзе ты?

— Я тут.

— Хадзі сюды!

Міколка падняўся.

— На, сынок, торбачку, палезь на ліпу і нарві цвету.

— Мама, можа, я заўтра зраблю гэта? Мы збіраліся ў мяч пагуляць, вунь і Петрык ужо ідзе,— паказаў Міколка.

— Пагуляеце пазней. Бачыш, як хараша цвіце ліпа. Гэта ж лякарства, сынок.

Тым часам падышоў Петрык.

— Вось і ён табе паможа. Зімою як знойдзецца. Не трэба будзе ў аптэцы купляць.

Петрык памаўчаў і згадзіўся.

— Гэта не простыя кветкі, а лекавыя,— расказваў Міколка пачутае ад маці.— Прастудзіцца хто, вып'е ліпавага чаю — і як рукою здыме хваробу.

Хлапчукі сядзелі на ліпе і рвалі жоўтыя кветкі. Пахла мёдам. У квецені гулі пчолы. А непадалёку дзеці гулялі ў мячык.

Петрык часам кідаў позіркі ў той бок, адкуль чуліся галасы. Адзін раз нават не вытрымаў:

— Глядзі, Вася ў Грышку мячом пацэліў!

Але Міколка быў заняты работаю і толькі адказаў:

— Давай хутчэй нарвём — і таксама пойдзем гуляць.

Раптам Петрык войкнуў і шуснуў з ліпы долу. Міколка паспешна злез на зямлю. Петрык стаяў пад ліпай і цёр кулаком пад вокам.

— Што з табою?

— Пчала джгнула.

Міколка выцягнуў джала, і хлопцы пайшлі ў хату. Высыпалі з торбы ў рэшата ліпавы цвет.

— Хопіць. Бачыш, поўна,— сказаў Петрык.

Гуляць у гэты дзень сябры не пайшлі. Яны ўдвух доўга чыталі кнігу.

Левае вока ў Петрыка запухла. Ён выглядаў так, быццам увесь час жмурыўся. Назаўтра, убачыўшы Міколку, спытаў:

— Смешны я, праўда?

Міколка гатовы быў засмяяцца, але, каб не пакрыўдзіць сябра, адказаў:

— Ды што ты?! Такі, як заўсёды.

— А вока?

— Вока? — нібы толькі цяпер заўважыў Міколка.— Нічога, толькі крыху прыпухлае.

— Не буду больш ірваць ліпавы цвет,— сказаў Петрык.— І вельмі марудна, і пчолы кусаюцца...

...Надышла восень. Аднойчы Міколка вярнуўся са школы засмучаны. Маці глянула на яго і не на жарт устрывожылася:

— Што з табою, сынок? Ты нездаровы?

— Са мною нічога. Петрык захварэў.

— А што з ім?

— Прастудзіўся.

— Ну, гэта невялікая бяда. Занясі яму свайго лякарства.

— Якога?

— А таго, што вы ўлетку назапасілі. Ліпавага цвету.

На кухні была толькі Петрыкава маці.

— Добры дзень, цётка Каця!

— Добры дзень, Коля.

Міколка хвіліну памаўчаў, потым сказаў:

— Я прынёс ліпавага цвету. Мама прыслала, каб Петрыку чай заварылі. Няхай нап'ецца — адразу ачуняе.

...Праз тры дні Петрык зайшоў па Міколку, каб разам ісці ў школу.

— Паправіўся? — спытала Міколкава маці.

— Дзякую, паправіўся. Сёлета я сам нарву ліпавага цвету аж пяць рэшатаў. Можа, яшчэ каму трэба будзе. Няхай прыходзяць.

## Новы зуб

Толькі Ганька ўзялася прыбіраць двор, як прыбег Васілёк:

— Давай памагу!

Хлопчык пачаў зграбаць смецце, зачапіўся граблямі за корань вішанькі, што расла каля плота,— і аднаго зуба як не было!

Засмучаныя, селі дзеці на лавачку. Што рабіць? І тут Васілёк успомніў:

— Ганька, давай пойдзем да дядзькі Сёмы. Ён зубы ўстаўляе. Нядаўна маёй маме ўставіў.

Неўзабаве Васілёк пастукаўся ў дзверы да зубнога доктара.

— Калі ласка, заходзьце,— пачуўся адказ.

Васілёк нясмела пераступіў парог.

— Вы да мяне, малады чалавек? — спытаўся дзядзька ў белым халаце.

Хлопчык кіўнуў.

— Што, зубы баляць?

— Не, там Ганька стаіць. У яе зуб зламаўся,— сказаў Васілёк.

— Дык няхай ідзе сюды. Будзем лячыць.

— Зуб уставіць трэба... Ганька плача, бо тата сварыцца будзе.

Дзядзька Сёма выйшаў на ганак, узяў граблі, якія яму падала дзяўчынка, і засмяяўся:

— Сапраўды бяда ў вас... Прыйдзецца памагчы. Толькі пачакайце трохі.

Дзеці селі на лаўку. Неўзабаве дзядзька Сёма выйшаў зноў. Ён спрытна выстругаў ножыкам з кавалачка дрэва новы зуб, уставіў яго ў граблі і сказаў дзецям:

— Гэты не зломіцца, дубовы.

Васілёк падзякаваў, а Ганьцы сказаў:

— Я ж табе гаварыў, што дзядзька Сёма самы лепшы зубны майстар.

## Чаму чырванее лісце

Вясной Ганька з Васільком пасадзілі клёнік. За лета клёнік так вырас, што Ганька не магла дацягнуцца да яго верхавінкі.

Аднойчы яна выглянула ў акно і ўбачыла, што адзін лісток на клёніку стаў чырвоны. Як сцяжок!

Пад вечар наляцеў на дрэўца вецер і сарваў лісток. Ганька падняла яго і прынесла ў хату. «Дам Васільку,— падумала яна,— няхай засушыць».

Назаўтра на клёніку было ўжо некалькі чырвоных лісцікаў, а потым усё дрэва пачырванела. Дзяўчынка вельмі шкадавала, калі вецер скідаў на зямлю прыгожае лісце.

— Нічога, вясной новыя лісты вырастуць. Зялёныя,— суцяшала яе мама.

— А ўвосень зноў пачырванеюць?

— Ага.

— А я ведаю,— раптам сказала Ганька,— чаму лісты восенню чырванеюць. Каб яны былі прыгожымі і мы ўспаміналі пра іх зімою і чакалі вясны.

## Чараўнік

Андрэйка рыхтаваў урокі. Ён сядзеў за сталом, а мама і маленькі Косцік шукалі падручнік беларускай мовы.

— Як я ў школу пайду, не зрабіўшы практыкавання?! — ледзь не плакаў Андрэйка.

— А ты да Васілька збегай,— параіла мама.— Можа, ён ужо напісаў.

Андрэйка хуценька апрануўся, збегаў да Васілька, але вярнуўся без падручніка.

— Сам піша. А потым, кажа, яшчэ правіла паўтараць будзе.

— Дзе ж твая кніжка падзелася? — уздыхнула маці.— Мо пад ложак завалілася? Паглядзі, Косцік.

Косцік ахвотна палез пад ложак.

— Няма.

— Можа, ты ў школе забыўся?

— Не.

— І дзе ж той падручнік шукаць! — развяла рукамі маці.

Косціку вельмі хацелася памагчы брату. Але як?..

«Вось каб жыў на зямлі добры чараўнік,— падумаў хлопчык,— ён зараз дастаў бы падручнік. Ці Васілька прыслаў бы, каб прынёс...»

Але дзе такога чараўніка знайсці? Чараўнікі толькі ў казках жывуць.

Раптам нехта пастукаў у дзверы.

— Заходзьце! — сказала мама.

Увайшоў трэцякласнік Міколка. Ён падаў Андрэйку падручнік.

— Я тваю кнігу знайшоў. Вазьмі.

— Сапраўды мая! — павесялеў Андрэйка.— Вось і клякса нават. Абмакнуў пяро ў чарніла, а на яго нешта прычапілася. Звалілася — і клякса. Я самалёт намаляваў...

Косцік амаль не слухаў, як усе дзякавалі Міколку. Калі трэцякласнік памкнуўся ісці дадому, Косцік раптам запытаў:

— А ты што, Міколка,— чараўнік?

— Які чараўнік? — здзівіўся хлопчык.

— А як ты даведаўся, што гэта Андрэйкава кніжка?

— Вось дзівак! — усміхнуўся Міколка і растлумачыў:— Ён жа падпісаў яе. Праўда, у прозвішчы літару «с» прапусціў. Ды тут ужо здагадацца лёгка было.

— А! — расчаравана ўздыхнуў Косцік.— А я думаў, што чараўнік.

Толькі пайшоў Міколка, зноў стук у дзверы. Адчынілі — Васілёк на парозе, у руках падручнік трымае.

— На. Андрэйка, пішы.

— Дзякую. Я ўжо свой знайшоў.

— Тады я памагу табе. Каб у школу не спазніўся.

## Падарунак

Косцікаў тата паехаў у горад на нараду перадавікоў.

Пачынала ўжо вечарэць, калі мама зірнула на гадзіннік і сказала:

— Аўтобус, відаць, прыйшоў ужо. Схадзі, Косцік, сустрэнь тату.

Заняты гульнёю, сын адказаў:

— На дварэ цёмна. Ваўкі бегаюць.

— Якія ў вёсцы ваўкі?! — здзівілася маці.

Тата прыйшоў хвілін праз дзесяць. Ён адразу запытаў сына:

— Косця, а чаму ты мяне не сустракаў?

Хлопчык нічога не адказаў, толькі апусціў галаву. А мама сказала, што пасылала Косціка сустрэць тату, але ён спалохаўся ваўкоў і не пайшоў.

Тата раптам паляпаў сябе па кішэнях і прамовіў да Косціка:

— А падарунак табе я згубіў.

— Як згубіў? — падступіўся да бацькі хлопчык.

— Як выходзіў з аўтобуса, спатыкнуўся, відаць, цукеркі твае і выпалі.

— Дык я пабягу, пашукаю,— падхапіўся Косцік.

— Куды ты пабяжыш? — запытала мама.— Зараз цёмна, ваўкі па вуліцы бегаюць.

— Якія ў вёсцы ваўкі! — адказаў Косцік.

Мама і тата засмяяліся, а Косціку зрабілася сорамна.

## Хто пабудзіць раніцу?..

Косцік прывык, што кожную раніцу вялікі белы певень пад акном выводзіць сваё «ку-ка-рэ-ку!».

Мама гаварыла:

— Уставай, сынку. Пеця ўжо раніцу разбудзіў.

І хлопчык верыў, што іхні белы певень сапраўды будзіць раніцу і каб не ён, дык не было б ні дня, ні сонца.

Асабліва Косцік пачаў верыць у Пецеву сілу, калі аднойчы суседскі певень заглянуў да іх у двор і Пеця прагнаў яго, перамогшы ў бойцы.

Але неяк хлопчык пачуў, як маці гаварыла, што певень толькі дарма зярняты дзяўбе, трэба яго прадаць.

Косцік са слязамі кінуўся да яе.

— Мамачка, няхай жыве наш Пеця! Ён жа раніцу будзіць!

— Я табе цукерак куплю, як прадам,— спрабавала ўгаварыць сына маці, але хлопчык стаяў на сваім:

— Не трэба мне цукерак! Нічога не трэба! Хай толькі Пеця жыве!

Але калі назаўтра Косцік прачнуўся, то ні мамы, ні пеўня дома не было. Маці вярнулася толькі пад вечар. Яна прывезла сыну цукерак у залатых паперках. Але Косцік не захацеў іх браць і, зашыўшыся ў куток, доўга сядзеў моўчкі. Нарэшце не вытрымаў, падышоў да маці.

— Мама, а заўтра будзе раніца?

— Будзе. А чаму ж ёй не быць?

— А хто ж яе пабудзіць, калі няма Пеці? Яна ж сама не прачнецца!..

## Ці страшная хмара?

Да Ганькі прыехала з горада сяброўка Ірынка. Назаўтра дзяўчынкі пайшлі ў лес у ягады.

З дому выбраліся, калі сонца сагнала расу і нават пачало прыпякаць.

Дзяўчынкі падышлі да льнянога поля. Больш як тыдзень не было дажджоў, і лён апусціў галоўкі. Ганька ўспомніла, як яе мама, вяртаючыся дадому, уздыхае: «Ой, загіне лён!..»

— Каб хоць дождж пайшоў,— сказала цяпер Ганька. Ірынка здзіўлена глянула на яе.

Гадзіны праз дзве дзяўчынкі вярталіся дамоў. Лён яшчэ больш прыгнуўся да зямлі.

Раптам, азірнуўшыся, Ірынка жахнулася:

— Глядзі, якая страшная хмара!

— І зусім не страшная,— запярэчыла Ганька.— Яна зараз абмые ўсё-ўсё, і адразу ўсюды стане зелена. І лён таксама акрыяе.

Але Ірынка і слухаць яе не хацела:

— Пайшлі хутчэй, а то зараз да ніткі вымачыць. І ягады вымакнуць.

Як ні спяшаліся дзяўчынкі, хмара неўзабаве дагнала іх. Сыпануў дождж, недзе над самымі галовамі загрукатаў гром.

— Нічога,— суцяшала сяброўку Ганька,— большыя вырасцем...

Нарэшце дзяўчынкі ўзбеглі на ганак. Мокрае адзенне прыліпала да цела, але было зусім не холадна.

Гэтак жа раптоўна, як і пачаўся, дождж перастаў. Выглянула сонца. Амаль на паўнеба заззяла вясёлка. Адным канцом яна ўпіралася ў той лес, адкуль толькі што прыбеглі дзяўчынкі.

Хмара, пагрукваючы, аддалялася. Усё адразу быццам памаладзела.

І лён узняў галоўкі. Дзяўчынкі глянулі на ягады. Яны былі бліскучыя і свежыя-свежыя. Нібы іх толькі што знялі з куста.

## Салодкія яблыкі

За сялом, на ўзлеску, расла яблыня-дзічка. Кожную вясну яна была ўсыпана квеценню. Але яблыкі раслі невялічкія, зялёныя і кіслыя. Ніхто іх не падбіраў.

Аднойчы тут гулялі ў хованкі Васілёк, Ганька і Ірынка. Жмурылася Ганька. Яна лічыла: «Раз, два, тры, чатыры, пяць! Я ўжо іду шукаць!»

Расплюшчыла вочы і ўбачыла зусім недалёка Васілька. Дзяўчынка радасна ўсклікнула:

— Васілёк!..

А хлопчык прыклаў палец да вуснаў: «Цішэ-эй!»

Глянула Ганька, куды паказваў хлопчык, і забылася пра гульню. Пад яблыняй тупаў вожык. Ён стараўся накалоць на спіну яблык.

Прыбегла Ірынка і сказала:

— Я памагу яму.

Ганька схапіла сяброўку за руку:

— Не палохай!

Вожык накалоў яблык і, не спяшаючыся, патупаў у лес.

— Гэтыя яблыкі такія кіслыя! — скрывілася Ганька.

— А я ведаю, дзе салодкія,— сказаў Васілёк. І павёў дзяўчынак да калгаснага саду.

— Дзядзька Адам, дайце нам яблыкаў,— папрасіў Васілёк садоўніка.

Ганька перабіла яго:

— Нам трошкі. Мы іх вожыку занясём.

— Бярыце, бярыце. І сабе, і вожыку.

Дзеці выбралі тры прыгожыя салодкія яблыкі, занеслі іх пад дзічку, а самі пачалі цікаваць здалёк.

Вожык адразу заўважыў яблыкі з саду. І, хоць навокал ляжала шмат іншых, першымі занёс іх у сваю кладоўку.

## Бяроставы коўшык

Васілёк з татам пайшлі ў лес па ягады.

— Сёння пойдзем туды, дзе ты, відаць, яшчэ ніколі не быў,— сказаў тата.

Доўга яны шлі ледзь прыкметнай сцяжынкай. Нарэшце апынуліся на вялікай прыгожай паляне. Уся яна была ўсыпана буйнымі і спелымі ягадамі. З бакоў паляну акружалі хвоі-веліканы. Тут было зацішна і ўтульна. Хвоі ледзь-ледзь шапацелі вяршалінамі.

Тата адразу нахіліўся і пачаў збіраць ягаду за ягадай у гарлачык. Васільку не хацелася гнуцца. Ён сарваў некалькі галінак і ўзяўся аб'ядаць чарніцы стоячы. Затым, шукаючы больш буйных ягад, рушыў на сярэдзіну паляны.

Гэта заўважыў тата:

— Васілёк, а ну вярніся назад. Ты стаптаў ужо некалькі кусцікаў ягад!

— Ну і хай! — абыякава адказаў сын.— Ты ж паедзеш на месяц у камандзіроўку, а мама гэтак далёка ў ягады не ходзіць.

— Дык іншыя людзі прыйдуць.

Васілёк нічога не адказаў, але вярнуўся да бацькі і пачаў памагаць яму збіраць ягады.

...Дадому яны ішлі іншай дарогай, больш далёкай. Васілёк хутка стаміўся і захацеў піць.

— Зараз крынічка будзе,— супакоіў тата.— Вада там чыстая і сцюдзёная.

Неўзабаве ён расхінуў у адным месцы кусты, і Васілёк убачыў, што тут з-пад зямлі б'е вада. Хлопчык хацеў набраць у прыгаршчы вады, каб напіцца, але тата спыніў яго:

— Пачакай.

Тата падышоў да бярозкі, зняў з сучка самаробны коў- шык, набраў вады і падаў сыну.

— Гэта твой коўшык? — спытаў Васілёк.

— Не, наш, грыбнікоў. А лепш сказаць — дзеда Лявона. Ён зрабіў гэты коўшык.

— Якога дзеда Лявона? Таго, што памёр?

— Ага, мінулай восенню дзед Лявон памёр... Ён вельмі любіў грыбы збіраць.

Васілёк успомніў, што часта сустракаў дзеда Лявона, калі той з поўным кошыкам вяртаўся з лесу.

— Дык вось дзед Лявон зрабіў бяроставы коўшык,— расказваў далей тата, зачэрпваючы ваду.— І павесіў ля крынічкі, каб грыбнікі маглі папіць гаючай вадзіцы. От і мы пап'ём ды ўспомнім добрым словам дзеда Лявона...

## Вавёрчына дзякуй

Хараша восенню ў лесе! Пад нагамі чырвонае, жоўтае лісце шамаціць. Кожны грыбок лістком прыкрыўся. Паспрабуй знайдзі!

Ды Васілька не абхітрыць. Прыкмеціў гарбок, разгарнуў лісце, а там, побач з большым,— тры маленькія баравічкі.

Хлопчык асцярожна зрэзаў грыбы, паклаў у кошык. Хацеў каму пахваліцца знаходкай, але ні таты, ні Ганькі, якая разам з імі пайшла ў лес, побач не было.

Потым Васілёк парашыў заглянуць у гушчар: «Мо там што знойдзецца?» І сапраўды, знайшоўся падасінавік. Чырвоны, на высокай ножцы.

Тут хлопчык убачыў і тату, і Ганьку.

— Бачыце, які прыгожы грыб! — паказаў Васілёк.

— Прыгожы! — згадзіўся тата.— А яшчэ што-небудзь знайшоў?

— Знайшоў! Цэлую сям'ю баравікоў знайшоў. Хочаце, пакажу?

Васілёк падбег да свайго кошыка, заглянуў у яго і занепакоіўся:

— А дзе ж самы вялікі баравік?

Ён агледзеў траву побач з кошыкам — грыба не было.

— Гэта ты ўзяла! — накінуўся Васілёк на Ганьку.— Ты была ля кошыка.

— Не брала я,— адказала Ганька.— Чэснае слова, не брала!

Тата ўзняў галаву ўгору:

— Васілёк, а гэта не твой грыб?

На дубовым суку быў нанізаны баравік.

Хлопчык прыгледзеўся і пазнаў:

— Мой!

— Я ведаю,— сказала Ганька.— Гэта вавёрка на зіму назапашвае.

Хоць і шкада было грыбка Васільку, але ён сказаў:

— То няхай застаецца вавёрцы.

...У адзін са студзеньскіх дзён, калі ласкава свяціла сонца, а мароз быў не дужа моцны, тата ўзяў Васілька на прагулку. Ехалі на лыжах не спяшаючыся, каб Васілёк не стаміўся.

Калі заехалі ў лес, хлопчык пацікавіўся:

— А куды мы едзем, тата?

— Не спяшайся, даведаешся.

Яны выехалі на паляну, пасярэдзіне якой стаяў высокі дуб.

— Пазнаеш месца? — усміхнуўся бацька.

— Дык гэта ж тут мы ўвосень грыбы збіралі,— успомніў Васілёк.

— Правільна. І на гэты сук вавёрка твой грыбок павесіла.

— А дзе ж ён?— захваляваўся хлопчык.— Ці, можа, вецер здзьмуў?

— Ды не,— супакоіў яго тата.— Вавёрка зняла. Бачыш: нават надпіс пакінула.— І паказаў на вавёрчыны сляды на снезе.

— Дык гэта ж сляды!

— Ага, так вавёрка лапкай пісала.

— А што тут напісана?

— «Дзякуй, Васілёк, за вельмі смачны грыб!»

## Партфелі

Першакласнікі вярталіся са школы. Дарогаю Ганька раптам сказала:

— А я сёння больш за цябе зрабіла. Ага!

— Як гэта больш? — не пагадзіўся Васілёк.

— На цэлага паўрадка больш напісала...

Хлопчык маўчаў, а Ганька ўсё шчабятала:

— Партфель мой таксама цяжэйшы. А ў каго кніжак больш, значыцца, той больш навучыўся.

— Чаму твой? Мой партфель цяжэйшы! — запярэчыў Васілёк.

— Давай памяняемся,— сказала дзяўчынка.— Хто першы заморыцца, у таго і цяжэйшы партфель.

Памяняліся. Неўзабаве іх дагнаў Міколка. Свае кнігі ён нёс у ранцы за плячыма.

— Малеча, давай партфелі паднясу.

— Не трэба, яны лёгкія,— адказалі Васілёк і Ганька ў адзін голас.

Ля Ганьчынай хаты Васілёк апусціў партфель на зямлю.

— Ага, бачыш: мой цяжэйшы!—зарадавалася дзяўчынка.

Паспрабаваў Васілёк апраўдвацца, але Ганька яго не слухала, скакала на адной назе і прыгаворвала:

— Мой цяжэйшы! Мой цяжэйшы!..

...Назаўтра Васілёк з апаскай паглядзеў на тоўсты Ганьчын партфель. «Знарок яблыкаў паклала»,— думаў ён.

На вялікім перапынку дзяўчынка пачаставала яблыкамі сваіх сябровак. І Васільку адзін дала.

«Цікава! Чаму яна ўсе яблыкі аддала?» — падумаў хлопчык і пайшоў у трэці клас, дзе вучыўся Міколка.

— Міколка, дай мне кнігі.

— Якія табе?

— Усе твае.

— Навошта?

Васілёк не чакаў такога пытання і крыху збянтэжыўся:

— Трэ-эба... Я іх табе дадому занясу.

Міколка згадзіўся.

...Са школы, як заўсёды, Васілёк вяртаўся разам з Ганькай. Дзяўчынка маўчала, і Васілёк не выцерпеў, пахваліўся:

— Сёння ў мяне партфель цяжэйшы!

На гэта Ганька абыякава адказала:

— Ну і нясі.

— Значыць, я навучыўся больш! — паўтарыў Васілёк учарашнія Ганьчыны словы. Ён быў гатовы і заскакаць на адной назе, як дзяўчынка. Але Ганька нейк па-даросламу разважліва сказала:

— Пры чым тут «навучыўся», калі цяжкі партфель цягнеш! — Дзяўчынка хвіліну памаўчала і дадала: — Учора мне мама сказала: «Розум не ў партфелі, а ў галаве».

## Гусак

Ганька з Андрэйкам, якi вучыўся ў другiм класе, вярталiся са школы. Iшлi i пацiху гаварылi. Раптам Андрэйка крыкнуў: «Атаман!» — i кiнуўся наўцёкi.

Ганька зiрнула ўбок i ледзь не самлела: вялiзны шэры гусак, выцягнуўшы шыю, iшоў проста на яе. Гусак быў злосны i сiпеў, як гадзюка. Дзяўчынка ад страху заплюшчыла вочы. Андрэйка стаяў воддаль i чакаў, што будзе.

Раптам, калi гусак гатовы быў вось-вось схапiць Ганьку за нагу, з высокага плота саскочыў незнаёмы хлопчык i стаў памiж Ганькай i гусаком.

Ад нечаканасцi гусак спынiўся i, прыгнуўшы галаву, глянуў на хлопчыка: «Хто гэта тут? Саступi дарогу!» Але хлопчык не варухнуўся. Атаман патаптаўся на месцы, увабраў шыю i вярнуўся да гусей.

— Ой, як я спалохалася! Аж ногi дрыжаць...— цiха сказала Ганька.— А ты адкуль?

— Я — адтуль,— кiўнуў хлопчык на плот.

— Гэта ж цёткi Аўдоццi хата.

— Мы да яе ўчора прыехалi. Будзем тут жыць. Мой тата аграном. А я — Сяргей.

— А я — Ганька. Мы каля самай шашы жывём. Ты ў школу ходзiш?

— Ага,— адказаў Сяргей.— У першы клас.

— Значыць, будзем разам,— усмiхнулася Ганька.— I я ў першы...

— Я цябе аж да дому правяду,— сказаў Сяргей.

— Не трэба. Я не баюся гусей,— сказала Ганька.— Толькi Атамана...

— I мне было страшна,— прызнаўся Сяргей.— Як ён iшоў на цябе! Крылы — во! — Сяргей шырока раскiнуў рукi.— Шыя — во! — Хлопчык прыгнуўся i выцягнуў уперад шыю.— А сiпi-i-iць!

Сяргей вылупiў вочы i засiпеў, як гусак.

Дзяўчынка звонка засмяялася i ўзяла хлопчыка за руку:

— Хадзем!

Неўзабаве яны дагналi Андрэйку. Той прыпынiўся, хацеў нешта сказаць, але змоўчаў. Прапусцiў Ганьку з Сяргеем наперад, а сам пацiху паплёўся ззаду.

## Малодшая сястра

Мяцелiца сцiхла толькi апоўднi. У акно заглянула зiмовае сонца.

Ну як ты ўседзіш у хаце, калі на дварэ гэтак хораша! Дрэвы ў снежным убранні — быццам дзяды ў белых кажухах.

Васілёк схапіў шапку, каб бегчы на вуліцу.

— Вазьмі мяне з сабою,— папрасіла Наташка.

— Малеча, сядзі на печы! — важна адказаў Васілёк.

Але тут за Наташку заступілася мама:

— І малой хочацца на вуліцу. Вазьмі, павазі сястру.

Васілёк незадаволена буркнуў:

— Апранайся хутчэй, чакаць не буду.

Наташка апранула свой белы кажушок і адразу зрабілася падобнай на снягурачку.

Дзеці ўзялі санкі і выйшлі на вуліцу. Там гуляў суседскі Валерка. Ён быў на цэлую галаву вышэйшы за Васілька і любіў пакпіць з меншых. Васільку зусім не хацелася з ім сустракацца.

Валерка важна падышоў да брата з сястрою і насмешліва запытаў:

— Ну, што, зіму пачулі?

Не паспеў Васілёк адказаць, як Валерка нечакана штурхнуў яго. Васілёк кульнуўся ў гурбу снегу.

Наташцы стала крыўдна за брата. Яна падбегла да Валеркі і з усяе сілы пхнула яго.

Валерка не ўстаяў на нагах і таксама паваліўся ў снег. Але ні Васілёк, ні Наташка не смяяліся: яны думалі, што Валерка зараз распачне бойку. А той падхапіўся і доўга старанна абабіваў снег. Потым глянуў на Наташку і сказаў знарок абыякава:

— З дзіцячым садам не ваюю!

А Васілёк пасадзіў Наташку на санкі і павёз. Яны доўга каталіся з горкі.

А калі вярталіся дамоў, Васілёк сказаў сястрычцы:

— А з табою, Наташка, добра гуляць. Чэснае слова!..

## Дзень нараджэння

Ветрык ледзь чутна шапоча лісцем клёнаў у школьным парку.

Дзеці выстраіліся на апошнюю ўрачыстую лінейку. Разам з усімі Васілёк дружна пляскае ў далоні, калі дырэктар уручае граматы і падарункі лепшым вучням.

Раптам Васілёк чуе сваё імя. Ён чырванее і нерашуча падыходзіць да Пятра Данілавіча. Дырэктар, як даросламу, паціскае яму руку.

Дзеці разыходзяцца па класах.

Перш чым адпусціць сваіх вучняў на лета, Галіна Сцяпанаўна гаворыць:

— Дарагія дзеці! Вось вы і пасталелі на год. Вы зрабілі першы, вельмі нялёгкі, крок у навуку. Шчаслівага вам адпачыць, дарагія другакласнікі!

Настаўніца дазволіла ісці дадому. Дзеці схапілі партфелі і з радаснымі воклічамі пабеглі з класа.

Галіна Сцяпанаўна ўзняла вочы і ўбачыла, што Васілёк, як і раней, сядзіць за партай.

— А ты чаму не ідзеш дадому?

— Галіна Сцяпанаўна,— спытаў хлопчык,— дык у нас сёння быццам дзень нараджэння?

— Самы сапраўдны дзень нараджэння,— усміхнулася настаўніца.

— Значыць, у мяне было два дні нараджэння. Адзін — зімою, калі споўнілася восем гадоў. А другі — сёння, калі перайшоў у другі клас?

— Выходзіць, што так.

Дома, толькі адчыніўшы дзверы, Васілёк гукнуў:

— Мама, у мяне сёння дзень нараджэння! І ў мяне і ў Ганькі...— І з гордасцю дадаў: — Мы — другакласнікі!

## Умей дзяліцца!
### *Казка*

Пайшоў Петрык у маліны. Назбіраў цэлы гарлачык, нясе дадому. А над галавою Вавёрка з галінкі на галінку пераскоквае:

— Петрык, дай малінку!

— Не дам. Ідзі сама пашукай.

Пакрыўдзілася Вавёрка, адстала ад яго.

Раптам дарогу пераскочыў Заяц, прыпыніўся і папрасіў:

— Петрык, дай дзве ягадкі!

— Яшчэ чаго захацеў! Усіх вас не абдзеліш. Ідзі сам збірай.

Пакрыўдзіўся Зайчык, паскакаў прэч ад хлопчыка. Аж тут па дарозе Мядзведзь тупае:

— Петрык, дай жменю ягад!

— Што вы ўсе да мяне прычапіліся! Цэлую жменю?.. Ого! Ідзі сам назбірай.

Заганарыўся Петрык, што ўсе яго просяць, ідзе, не разбіраючы дарогі. Доўга так ішоў ці не, раптам бачыць, што мясціны незнаёмыя. Значыць, збіўся з дарогі.

Стаміўся Петрык, прысеў на пянёк. Чуе — на суседнім дрэве Вавёрка цокае:

— Сам вінаваты. Я магла б на вяршаліну самага высокага дрэва ўзабрацца, сказаць, дзе лес канчаецца...

— Не трэба мне тваёй дапамогі,— буркнуў хлопчык.

За Вавёркаю Зайчык прыскакаў.

— Сам вінаваты. Я табе дарогу дамоў паказаў бы...

— Не трэба. Сам выберуся.

Пачуўся трэск — і на паляну выйшаў Мядзведзь:

— Сам вінаваты! Я цябе на сваіх плячах дамоў занёс бы...

Нічога не адказаў Петрык, падняўся з пня і пайшоў далей. Але куды б ён ні ішоў, здавалася, што лес усё гусцейшы і гусцейшы становіцца. Нарэшце хлопчык у роспачы ўпаў на мох і заплакаў.

Апамятаўся ён ад шуму. Вакол Петрыка сабралася шмат звяроў. Яны аб нечым спрачаліся. Мядзведзь узняў лапу, і ўсе звяры заціхлі.

— Ты ганарыўся, шкадаваў нам самую дробязь — і за гэта пакараны,— загаварыў Мядзведзь.— І ўсё ж мы параіліся і вырашылі дапамагчы табе. Ідзі прама вунь у той бок і трапіш акурат дадому. Толькі нідзе не збочвай, інакш — заблудзішся.— І паказаў, куды ісці.

Петрык падзякаваў звярам і рушыў у дарогу, а Мядзведзь яшчэ гукнуў наўздагон:

— Памятай адно — умей дзяліцца з сябрамі і блізкімі! Без гэтага не пражывеш.

## Яблыня
## *Казка*

Жыў-быў Чалавек. І найбольш любіў ён вырошчваць розныя дрэвы. Аднойчы засадзіў ён зярнятамі цэлы гародчык. Дружна пайшлі ў рост маладыя дрэўцы, толькі адна Яблынька была маленькая, кволая.

Падышла да яе Курыца, закудахтала:

— Вось я зараз цябе выграбу,— нічога не застанецца!

— Навошта ж мяне выграбаць? — адказала Яблынька.— Лепш я табе, як вырасту, яблык дам.

Курыца падумала і не кранула Яблыньку.

Перасадзіў Чалавек Яблыньку ў сад. Прыбег Заяц:

— Вось абгрызу кару — і ты засохнеш!

— Якая ж карысць з гэтага будзе, Заяц? Лепш я табе, як вырасту, два яблыкі дам.

Парашыў і Заяц яблыкаў дачакацца.

Чалавек прышчапіў Яблыньку. І пайшла яна расці, расці — ажно сябровак перагнала.

Аднойчы ў сад забраўся Мядзведзь. Вельмі спяшаўся паласавацца мёдам у вуллях, ды зачапіўся за Яблыньку, раззлаваўся і зароў:

— Выцягну зараз з коранем, каб не замінала!

— Не трэба, Міхайла Іванавіч. Як вырасту, я табе тры яблыкі дам.

— А салодкія хоць тыя яблыкі будуць?

— Салодкія. Як мёд!

— Добра, тады не буду...

Нарэшце Яблыня зацвіла. Радаваўся Чалавек, пазіраючы на яе квецень. А восенню смачныя яблыкі зачырванеліся на галінах.

Першай прыйшла да яблыні Курыца:

— Ты не забылася, што мне абяцала?

Яблыня скінула ёй яблык. Пасля прыскакаў Заяц:

— А мне яблыкі будуць?

— А як жа. Вось табе два.

Апошнім прытупаў Мядзведзь:

— Ну, аддавай доўг!

Яблыня скінула яму тры яблыкі.

Курыца, аднак, нагледзела, што на галінках яшчэ шэсць яблыкаў засталося. Не вытрымала і спытала:

— А гэтыя каму?

— Чалавеку.

Курыца пайшла за сяло, сустрэлася з Зайцам і паскардзілася :

— Яблыня мне адзін яблык дала, а Чалавеку ажно шэсць пакінула.

— А мне толькі два...— уздыхнуў Заяц і адразу ж пабег шукаць Мядзведзя.

— Несправядліва, Міхайла Іванавіч,— лісліва пачаў касавокі.— Мне два яблыкі дала. Курыцы — адзін, а Чалавеку аж цэлых шэсць беражэ.

— Непарадак! — зароў Мядзведзь.— Мне — тры, а Чалавеку — шэсць! Чым я горшы за Чалавека?

Прыйшлі Курыца, Заяц і Мядзведзь да Яблыні.

— Чаму мне толькі адзін яблык дала?..

— А мне два?..

— А мне тры? — зароў Мядзведзь.— Чым жа Чалавек лепшы за нас?

— А тым,— адказала Яблыня,— што Чалавек клапаціўся пра мяне, памагаў мне. А вы толькі пагражалі знішчыць мяне. Цяпер я толькі Чалавеку буду дарыць яблыкі.

Не паспеў Ліс слова сказаць, а Зайца ўжо і не відаць. Ад злосці Ліс толькі цяўкнуў наўздагон.

Дабег Заяц да новага мядзведжага берлагу, пастукаўся. Выйшаў касалапы Міша, глянуў грозна на Зайца, і той без слоў зразумеў: «Чаго трэба?»

— Шаноўны Мядзведзь, тут некаму... тэлеграму... прыслала Вавёрка.

Узяў Мядзведзь, прачытаў і заганарыўся:

— Гэта мне. Я самы дужы ў лесе!

— Не,— расхрабрыўся Заяц.— Калі ты самы дужы, дык ты ў любую хвіліну збудуеш бярлог. А гэтая тэлеграма — некаму другому...

— Як!..— кінуўся быў на яго Мядзведзь, але Зайца ўжо і след прастыў.

Дабег ён да Вожыкавай хаткі, насілу аддыхаўся: усё здавалася, што Мядзведзь гоніцца за ім. Супакоіўся крыху, пастукаў у дзверы. Выкаціўся Вожык, убачыў Зайца і запрасіў у хату:

— Заходзь, заходзь, сусед. У лесе зараз не цёпла. А ў нас самавар кіпіць.

Зайшоў Заяц у хату, выпіў шклянку гарачага чаю, а Вожык і пытае:

— Ну, з чым да нас, сусед, завітаў?

— Тут некаму тэлеграма ад старой Вавёркі. Прачытаў Вожыкаў сын тэлеграму ўголас.

А Заяц і кажа:

— Гэта вам.

— А чаму нам? — здзівіўся сын.

— Бо тут напісана: добраму і ветліваму зверу. Падзякаваў Вожык Вавёрцы за памяць, а Зайцу — за турботы. Правёў паштальёна да дзвярэй і сказаў:

— А да зімы мы падрыхтаваліся ўжо. Задаволены вяртаўся дадому Заяц: тэлеграма трапіла па адрасу.

## Зайцаў кажушок
### *Казка*

Прыйшла ў лес зіма, а з ёю — маразы і сцюжы. Усе зайцы надзелі белыя кажушкі. Цёпла ім стала.

Толькі адзін Малады Заяц усё ў шэрым скача. Скача і дрыжыць ад холаду. Убачыў гэта Стары Заяц і прынёс яму кажушок.

— На, пераапраніся, цяплей будзе.

Зарадаваўся Малады Заяц, надзеў новы кажушок, а стары пад ядлоўцавы куст закінуў.

— Павесь на відавоку, каб потым не шукаць,— напомніў Стары Заяц, але Малады махнуў лапкай:

— Калі яшчэ тая вясна!

Ішлі дні за днямі, і не агледзеўся Малады Заяц, як вясна ў лес завітала. Усе зайцы знайшлі сваё адзенне, пераапрануліся і скачуць вясёлыя.

Адзін толькі Малады Заяц ніяк не можа ўспомніць, пад які куст свой кажушок кінуў. Горача яму ў зімовым адзенні.

Забіўся Малады Заяц пад дрэва, хацеў адпачыць у цяньку, а тут паджары, галодны пасля зімы Воўк бяжыць, зубамі ляскае.

Кінуўся Заяц наўцёкі, а Воўк кажа:

— Не ўцячэш. Белага ўсюды відаць.

Бег, бег Заяц, пакуль не стаміўся. Прысеў перадыхнуць, паглядзеў навокал, і здалася яму знаёмай гэта мясціна.

«Ці не тут я свой кажушок пакінуў?— падумаў ён.— Трэба пашукаць, пакуль Воўк не дагнаў».

Заглянуў Малады Заяц пад ядлоўцавы куст, а там — яго кажушок. Хуценька схапіў яго, апрануў і прытаіўся.

А тут і Воўк на паляну выскачыў.

— Дзе ж гэта Заяц падзеўся? Толькі што сюды бег...— і памчаўся далей.

А да Маладога Зайца падышоў Стары:

— Хай табе гэта будзе навукай на ўсё жыццё. Запамінай, дзе ўвосень кладзеш свой кажушок, тады вясной лёгка знойдзеш.

Ды той і сам ужо зразумеў гэта.

**ЗМЕСТ**